● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

30 красавіка 1998 г. чацвер, № 94 (23445)

# ЗВЯЗДА




## ЦЭНЫ

### ПАЦЯПЛЕЛА І — ТАРЫФЫ «КРАНУЛІСЯ»

**Загадам Міністэрства транспарту і камунікацый па ўзгадненню з Камітэтам цэн пры Міністэрстве эканомікі з 4 мая па ўсёй тэрыторыі Беларусі павялічваюцца тарыфы на прыгарадныя і міжгароднія аўтамабільныя пасажырскія перавозкі.**

З пазначанай даты кошт праезду на гэтых маршрутах даражэе наступным чынам: у аўтобусах агульнага тыпу — да 540 рублёў за кожны кіламетр шляху (да гэтага было 470 рублёў), у машынах з мяккімі адкіднымі крэсламі — да 560 рублёў (было 490 рублёў) за кожны кіламетр праезду. Нагадаем, ужо даволі працяглы час у краіне ўзровень тарыфаў на прыгарадныя і міжгароднія перавозкі аднолькавы, канчатковая сума платы за білет залежыць толькі ад працягласці шляху.

Як можна заўважыць, павелічэнне тарыфаў перавышае дазволены двухпрацэнтны ўзровень інфляцыі, аднак у транспартнікаў ёсць падставы для такога кроку. Як паведамілі ў Міністэрстве транспарту і камунікацый, толькі за студзень-люты страты ад гарадскіх перавозак склалі 28,9 млрд. рублёў, ад прыгарадных — 25,3 млрд., ад міжгародніх — 11,7 млрд. рублёў. Відавочна, што так доўга працягвацца не можа: транспартныя прадпрыемствы рызыкуюць зусім стаць «на прыкол». Таму, разумеючы ўсю складанасць праблемы, Міністэрства эканомікі і дазволіла «пазапланавае» павелічэнне тарыфаў.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ТРАГЕДЫІ

### У ВЫНІКУ ВЫБУХУ РЭЗЕРВУАРА З БЕНЗІНАМ ЗАГІНУЎ ЧАЛАВЕК

Святы заканчваюцца, пачынаюцца святы новыя — жыццё ідзе сваім парадкам. І, на жаль, ход яго не заўсёды радасны ды вясёлы.

Мінулай ноччу ў Наваполацку ў рэзервуарным парку завода бялкова-вітамінных канцэнтратаў адбыўся выбух рэзервуара ёмістасцю 2 тысячы кубаметраў, у якой знаходзіўся бензін. Асаблівую небяспеку выклікала тое, што побач знаходзілася яшчэ пяць такіх жа рэзервураў, якія маглі ўзляцець у паветра. Як паведамілі нам у прэсслужбе Міністэрства ўнутраных спраў, ліквідацыя пажару заняла дзве з паловай гадзіны. У выніку выбуху загінуў адзін чалавек — 23-гадовы рабочы вытворчага аб'яднання «Нафтан». Следства пакуль высвятляе дакладную прычыну ўзгарання пары бензіну, але выказваецца меркаванне, што адной з прычын стала тое, што загінуўшы выкарыстоўваў для ўскрыцця рэзервуара «іскраўтваральны» інструмент. Сума ўрону таксама падлічваецца.

Яшчэ адно трагічнае здарэнне, таксама ноччу, адбылося ў вёсцы Вяжны Светлагорскага раёна. У летнім лагеры малочна-таварнай фермы калгаса імя К. Маркса вартаўнік Ю. Рэдзькін заснуў ля кастра, атрымаў апёкі, ад якіх і памёр.

А ў вёсцы Валькі Талачынскага раёна ў доме непрацуючай Н. Жураўлёвай, як мяркуецца, ад неасцярожнага курэння, узнік пажар. Агнём знішчаны дом, гаспадыня загінула.

**Кар. «Звязды».**

### КАНФІСКАВАНА БУЙНАЯ ПАРТЫЯ ЗБРОІ

Буйная партыя зброі канфіскавана супрацоўнікамі праваахоўных органаў на працягу красавіка ў Асіповічах — 15 асколачна-фугасных снарадаў, 2,3 тысячы баявых патронаў, 58 запалаў да гранаты, самаробны карабін, перароблены пад баявыя патроны газавы пісталет, абрэз ружжа і малакаліберная вінтоўка. Знойдзены арсенал стаў прычынай арышту адразу некалькіх чалавек: трое з іх — былыя ваеннаслужачыя, а чацвёрты — прапаршчык адной з дыслацыраваных у Асіповічах воінскіх часцей, які краў і забяспечваў іх боепрыпасамі.

Усяго ж з пачатку гэтага года ў Асіповічах знойдзена 20 адзінак агнястрэльнай зброі.

**Аляксандр АЛЕКСАНДРОВІЧ, БелаПАН.**



**Бульба для новага ўраджаю.**

*Рэпартаж з калгаса імя Горкага Мядзельскага раёна чытайце на 5-й стар.*

## СПАЖЫВЕЦ

### ЧАМУ КАЎБАСА БОЛЬШ НЕ ПАХНЕ КАЎБАСОЮ?

Крытыкаваць якасць сённяшніх харчовых прадуктаў і ўспамінаць часы, калі і цукар быў больш салодкім, і масла больш тлустым, ужо даўно ўвайшло ў нас у звычку. Напэўна, кожнае пакаленне зможа прыгадаць са сваёй маладосьці штосьці смачненькае, рэцэптуру чаго сучасныя вытворцы ці то забыліся, ці то не маюць інгрэдыентаў для яго вырабу. Мне, напрыклад, успамінаецца з дзяцінства «Доктарская» каўбаса, якую маці наразала як далікатэс тоненькімі ружовымі лустачкамі да чаю — была яна тады ў нашым доме не кожны дзень, бо лічылася дэфіцытам. Пазней, калі «каўбасны дэфіцыт» нарэшце знік, разам з ім знікла і сапраўдная каўбаса «Доктарская»: вось так, назва засталася, а каўбаса — не.

На жаль, але прыходзіцца канстатаваць, што сярод сённяшняй «разнастайнасці» каўбасных вырабаў, прадстаўленай на паліцах нашых магазінаў, выбіраць і ўвогуле не прыходзіцца: яе смак усё менш нагадвае каўбасны. Працяглы час на пэўныя філасофскія думкі мяне наводзіла каўбаса «Пажыўная», якая быццам бы здзекавалася над усім астатнім «непажыўным» каўбасным прадуктам. А днямі на вочы мне трапіў новы «шэдэўр» айчыннай мяса-малочнай прамысловасці — вараная каўбаса «Растолінская», гатунак на якой шукаць было не варта, бо было ясна напісана — «безгатункавая» каўбаса.

Даволі цікавым паказаўся мне яе састаў: ялавічына, шпік, свініна, мука, соевы бялок, прыправы, нітрыт натрыю, фасфаты, — які, трэба заўважыць, праўдзіва быў заяўлены на каўбасным батоне. І ўсё ж ніхто з пакупнікоў не мог атрымаць інфармацыю аб змесціве прадукту да ажыццяўлення пакупкі — для гэтага патрабавалася адрэзаць ад батона даволі вялікі кавалак, які б захопліваў і інфармацыю для спажыўца. У той жа час здагадацца па цане каўбасы «Растолінскай» аб тым, што яна не прэтэндуе на званне высокагатункавага прадукту, было даволі цяжка, бо 84 тысячы рублёў за кілаграм — немалыя грошы. І выкладваць іх за сумніўнай вартасці каўбасу было крыўдна.

Сумна, але соя — не адзіны прадукт, якім замяняецца сёння ў каўбасах мяса. У ход пайшлі ўжо і гарох, і нават бульба. Уведзенне новай «рэцэптуры» каўбасы падчас «круглага стала» ў грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы прадстаўнікі Мінсельгасхарча растлумачылі дэфіцытам у краіне мяса, выкарыстаннем раслінных інгрэдыентаў, па іх словах, дазволіла зэканоміць галіне толькі за два месяцы гэтага года 15 тысяч тон мяса. Аднак тое, што выгадна дзяржаве, не заўсёды выгадна пакупніку, бо розніца у смаку паміж мясной, бульбяной і гарохавай каўбасой усё ж, пагадзіцеся, значная, а цана — не.

З просьбай пракаменціраваць вартасць сённяшніх вараных каўбас мы вырашылі звярнуцца да галоўнага спецыяліста Міністэрства аховы здароўя РБ па праблемах харчавання, дырэктара Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра па экспертнай ацэнцы якасці і бяспечнасці прадуктаў харчавання Валерыя Мураха:

— Пазіцыя нашага інстытута ў гэтым пытанні адназначная: гарох, як і бульба, у каўбасе прысутнічаць не можа. У тым жа выпадку, калі ён уваходзіць у састаў прадукту, гэты прадукт называцца каўбасой проста не мае права — няхай гэта будзе, скажам, гарохавая страва ў абалонцы. Што датычыцца ўключэння ў якасці інгрэдыента ў вараныя каўбасы соевай мукі, то, заўважу, што сыпаць яе ў каўбасныя вырабы мы забараняем. Справа ў тым, што для замены жывёльных бялкоў можна выкарыстоўваць толькі высокакаштоўныя дабаўкі, якія ўтрымліваюць бялковыя малекулы, звязаныя з незаменнымі для арганізма чалавека амінакіслотамі, гэта значыць дабаўкі-заменнікі павінны быць раўнацэнныя курынаму яйку па ўтрыманню бялку. Самыя лепшыя ў гэтым сэнсе дабаўкі — соевыя тэкстураты і ізаляты, а вось сыпаць у каўбасныя вырабы соевую муку — проста злачынства. Увогуле ж мы лічым, што ісці па шляху замены ў каўбасах мяса нельга: мяса павінна заставацца мясам. І падманваць насельніцтва рэспублікі вытворчасць не мае ніякага права.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**



## СУСТРЭЧА А.Р.ЛУКАШЭНКІ З С.У.КІРЫЕНКАМ

Сапраўдная дружба грунтуецца перш за ўсё на эканамічных адносінах. Аб гэтым заявіў прэм'ер-міністр Расіі Сяргей Кірыенка на сустрэчы з кіраўніком беларускай дзяржавы Аляксандрам Лукашэнкам, якая адбылася раніцай 29 красавіка ў Маскве. З беларускага боку ўдзел у ёй прынялі прэм'ер-міністр Сяргей Лінг, кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч, віцэ-прэм'ер і паўнамоцны прадстаўнік Беларусі ў органах інтэграцыі Васіль Далгалёў, з расійскага — намеснік міністра замежных спраў Сяргей Пастухоў, іншыя афіцыйныя асобы.

Аляксандр Лукашэнка павіншаваў Сяргея Кірыенку з выбраннем яго на пасаду кіраўніка расійскага ўрада і Старшыні Выканкама Саюза Беларусі і Расіі. Ён падзякаваў новаму кіраўніку расійскага ўрада за спагадлівыя адносіны да Беларусі, да тых праблем, якія ў нас сёння ёсць. «Я вельмі спадзяюся, што мы аператыўна і рэзультатыўна будзем вырашаць тыя пытанні, якія ў нас ёсць, выключна ў інтарэсах нашых дзяржаў», — сказаў Аляксандр Лукашэнка.

Прэзідэнт адзначыў, што беларускі бок будзе вельмі ўважліва адносіцца да праблем, якія ўзнікаюць у Расіі. «Вы можаце быць упэўненыя ў тым, што інтарэсы Расіі на тэрыторыі Беларусі будуць абаронены», — падкрэсліў А.Р.Лукашэнка.

У сваю чаргу Сяргей Кірыенка выказаў упэўненасць, што абедзве дзяржавы змогуць рухацца і далей па шляху ўзаемнага супрацоўніцтва.

Пасля сустрэчы ў пашыраным саставе Аляксандр Лукашэнка і Сяргей Кірыенка правялі гутарку сам-насам.

З Белага дома кіраўнік беларускай дзяржавы і члены дэлегацыі адправіліся ў Крэмль на пленарнае пасяджэнне Савета кіраўнікоў дзяржаў СНД.

**Аляксандр ЛЮШКЕВІЧ, БЕЛТА.**

## МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

### САКРАТАРЫЯТ САДРУЖНАСЦІ ЎЗНАЧАЛІЎ БАРЫС БЕРАЗОЎСКІ

Сапраўднай сенсацыяй для прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі, якія працуюць на саміце кіраўнікоў дзяржаў СНД, сталі вынікі пленарнага пасяджэння Савета кіраўнікоў дзяржаў Садружнасці. Барыс Ельцын аб'явіў аб тым, што кіраўнікі дзяржаў прагаласавалі за назначэнне Барыса Беразоўскага на пасаду выканаўчага сакратара СНД. З гэтай прапановай выступіў Леанід Кучма. Як адзначыў Барыс Ельцын, нягледзячы на тое, што было шмат розных момантаў у рабоце з Беразоўскім, ён усё ж мае намер эфектыўна працаваць з ім у рамках Садружнасці. Паводле слоў Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі, Івану Каратчэні, які займаў гэту пасаду з мая 1993 года, «падзякавалі за работу — добрасумленна працаваў, але час ідзе, нам трэба таксама абнаўляцца», — падкрэсліў Барыс Ельцын.

У адрозненне ад апошняга саміта кіраўнікоў дзяржаў СНД, які адбыўся ў Кішынёве, гэты, відаць, быў у добрым сэнсе «прыземленым». Прэтэнзіі адзін да аднаго ўступілі месца калі не кампрамісу, то, ва ўсякім разе, разуменню таго, што Садружнасць мае патрэбу ў сур'ёзным рэфарміраванні.

Дыскусія наконт гэтага была даволі працяглай. Як адзначыў Барыс Ельцын, пасля кішынёўскай сустрэчы прэзідэнты разышліся вельмі незадаволеныя адзін адным і пры гэтым усе мелі рацыю: СНД трэба рэфарміраваць. Сённяшняе пасяджэнне кіраўнікоў СНД вырашала вельмі канкрэтныя пытанні, у прыватнасці, кадравыя. Старшынёй Савета кіраўнікоў дзяржаў СНД да 2000 года выбраны прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын, старшынёй Савета кіраўнікоў урадаў СН — прэм'ер-міністр Узбекістана Уткур Султанаў. Акрамя таго, генерал-маёр Сяргей Карабко быў зацверджаны ў якасці камандуючага міратворчымі сіламі ў зоне грузіна-абхазскага канфлікту, зроблены іншыя назначэнні ў структурах Садружнасці. Галоўным мазгавым цэнтрам рэфарміравання СНД Барыс Ельцын назваў Казахстан і казахстанскага прэзідэнта Нурсултана Назарбаева.

Пасля заканчэння пленарнага пасяджэння Савета кіраўнікоў дзяржаў Садружнасці прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка наведаў Інтэрфакс, дзе правёў прэс-канферэнцыю для журналістаў маскоўскіх і замежных сродкаў масавай інфармацыі.

**Аляксандр ЛЮШКЕВІЧ, БЕЛТА.**

## ГОМЕЛЬ ГАТОВЫ ДА СУСТРЭЧЫ ПАРЛАМЕНТАРЫЯЎ БЕЛАРУСІ І РАСІІ

**Восьмая сесія Парламенцкага Сходу Саюза Беларусі і Расіі, якая будзе праходзіць з 3 па 5 мая ў Гомелі, пачнецца з пасяджэння пастаянных камісій саюзнага парламента. Сабраўшыся ў Гомельскім абласным культурным цэнтры, месцы правядзення сесіі, дэпутаты канчаткова абмяркуюць парадак работы.**

3 мая адбудзецца і прэзентацыя праекта «Фонд інфарматызацыі сацыяльнай сферы Саюза Беларусі і Расіі», які ладзіць Камісія па сацыяльнай палітыцы, навуцы, культуры і гуманітарных пытаннях. Важнае значэнне гэтага праекта абумоўлена тым, што менавіта сацыяльная сфера з'яўляецца першапачатковай глебай, на якой павінны будавацца ўзаемаадносіны дзвюх дзяржаў, менавіта збліжэнне заканадаўстваў і стандартаў у гэтай найбольш блізкай да жыцця людзей галіне будзе аказваць уплыў на далейшае развіццё міждзяржаўнага аб'яднання.

Сама сесія непасрэдна пачнецца ў панядзелак. Напярэдадні яе дэпутацыі Беларусі і Расіі ўскладуць кветкі да Вечнага агню на плошчы Працы ў Гомелі. А пасля рабочага дня яны стануць гледачамі канцэрта майстроў мастацтваў і калектываў мастацкай самадзейнасці Гомельшчыны. Заключнае пленарнае пасяджэнне пройдзе 5 мая.

Не ўсе пытанні парадку дня будуць вынесены на сесію. Некаторыя праблемы функцыянавання саюзнага парламента будуць абмяркоўвацца больш вузкім колам, таму дэпутаты запланавалі некалькі сумесных пасяджэнняў пастаянных камісій і рабочых груп. На адной з такіх сустрэч мяркуецца разгледзець акалічнасці ператварэння Парламенцкага Сходу ў сапраўдны заканадаўчы орган Саюза Беларусі і Расіі, што прадугледжана Статутам Саюза.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 29 КРАСАВІКА 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| **Мінск (0-17)** | | | | | | | |
| Белпромстройбанк | 45700 | 46500 | 25000 | 25900 | 7200 | 7600 | 233-2110 |
| Минсккомплексбанк | 46000 | 46500 | 25600 | 25900 | 7500 | 7550 | 228-2047 |
| Пріорбанк | | | | | | | 245-5721 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 34710.00 | | 19316.60 | | 5660.00 | | Курс на 30.04.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.1330 | | 3.4156 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваецца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

| | USD | | DM | | RUR | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Рынкавы намінальны курс (міжбанкаўскі рынак) | 66000 | 66998 | 36683 | 37248 | 10769 | 10934 | |
| Рэальна абгрунтаваны намінальны курс (прыблізна) | 52500 | 53000 | 30600 | 31000 | 11400 | 11800 | |

ТЭЛЕЛОЦЫЯ

# Павел Каранеўскі «асвоіў» паўсотні прафесій і лічыць, што гэта не мяжа

**Нязвыклае словазлучэнне «ток-шоу» большасць з нас упершыню пачулі напрыканцы 80-х, разам са з'яўленнем на тады яшчэ савецкіх экранах жвавага амерыканца Філа Донах'ю. З благаславення яго расійскага калегі Уладзіміра Познера новы жанр хутка прывіўся і на маскоўскіх каналах узніклі «Мы», «Тэма», «Акулы пяра», «Зрабі крок»... На БТ ж першым і адзіным ток-шоу доўгі час заставаўся «Карамболь» Ягора Хрусталёва. Пакуль год таму не нарадзілася праграма «Гэта мая работа». Па словах яе вядучага Паўла Каранеўскага, для таго, каб працаваць у ток-шоу, яму прыйшлося найперш прынесці ў ахвяру іміджу... свае раскошныя доўгія валасы.**

— Часам мне гэты імідж упоперак горла, — жартуе Павел. — Вось пачалася здымка, задаю пытанне гасцям, і раптам — бах! — за вухам засвярбела. Іншы чалавек пачухаў бы ды і забыўся, а мне прыходзіцца ўсю перадачу цярпець, захоўваючы імідж... Калі ж казаць сур'ёзна, дык на БТ над вобразам вядучага, на жаль, працуюць надзвычай мала. На ГРТ знешнім выглядам таго ж Валдзіса Пельша заклапочаны тузін спецыялістаў, і прынцыповым пытаннем там з'яўляецца нават направа ці налева павернуты ў яго чуб. У нас імідж ствараецца саматужна.

*— На працягу вось ужо года раз на тыдзень ты знаёміш гледача з прадстаўнікамі той альбо іншай прафесіі. Аднак наўрад ці «звыш-мэта» ток-шоу абмяжоўваецца гэткім намінальным знаёмствам...*

— Па-першае, передача — гэта каляровая «рэкламная паштоўка» прафесіі. Яе сацыяльнае прызначэнне — паказаць маладым людзям, якія абдумваюць жыццёвыя перспектывы, увесь спектр існуючых прафесій: ад суперпапулярных да незапатрабаваных на працягу ўжо многіх гадоў. Па-другое, на айчынным тэлеканале з яго шматлікімі «гаворачымі галовамі» вельмі мала людзей, якія б расказвалі свае простыя жыццёвыя гісторыі, што бяруць за душу.

*— У гэтым сэнсе, пагадзіся, поспехі расійскіх каналаў ўражваюць намнога больш, чым нашы.*

— У пераважнай большасці сучасных расійскіх ток-шоу («Мая сям'я», «Я сама», «Пра гэта») прымаюць удзел прафесійныя акцёры. За эмацыянальна, са слязамі расказаную гісторыю ім плацяць неблагія грошы. Калі мне хто не верыць, няхай падумае, ці можа наш постсавецкі чалавек сказаць так проста ў камеру: «Я ўжо дзесяць гадоў падманваю абедзвюх сваіх жонак» або «Я ненавіджу свайго начальніка»?

Мы на БТ маглі б зрабіць гэтак жа. Але тэлебачанне, на мой погляд, павінна быць сумленным. І няхай чалавек лепш запінаецца, расказвае не вельмі цікава, але робіць гэта шчыра. Такую праграму людзі ўсё роўна стануць глядзець.

*— Дарэчы, наколькі папулярная, ты лічыш, сёння «Гэта мая работа»?*

— Згодна з рэйтынгамі, мы трапляем у першую 20-ку. Зусім някепска, калі ўзгадаць для параўнання, што нават самыя «крутыя» амерыканскія ток-шоу займаюць там 8—10-е месца.

*— А наколькі поспех праграмы залежыць ад яе вядучага?*

— Працэнтаў на трыццаць. Галоўнае — гэта госці. Ад таго, як аўтары выбяруць іх, што гэта будуць за людзі, як яны псіхалагічна падрыхтаваныя да эфіру, залежыць сапраўды шмат. Большасць маіх герояў упершыню трапляе на тэлебачанне, і таму поспехам з'яўляецца ўжо тое, калі яны не разгубяцца, апынуўшыся пад прыцэлам тэлекамер і асвятляльных прыбораў, у цэнтры ўвагі вядучага і аўдыторыі ў студыі.

*— Прабач за шчырасць, але звычайнаму гледачу кідаецца ў вочы нейкая вяласць, санлівасць публікі на тваіх ток-шоу.*

— Адвечна заклапочаны твар — не столькі рыса праграмы альбо канала. Выйдзем на вуліцу, паглядзім на нашых людзей: радасці і ўсмешак на іх тварах мы таксама не ўбачым.

*— Дык тая ж сітуацыя і ў Маскве, але іх ток-шоу ніколі не цярпелі ад нізкай актыўнасці публікі. Ці гэта таксама акцёрская пастаноўка? А мо нешта залежыць і ад дынамічнай работы аператара?*

— Сцэнарый здымкі любога ток-шоу будуецца наступным чынам: напачатку дзеля «разагрэву» публікі вядучы расказвае анекдоты, аператары тым часам фіксуюць усмешкі і апладысменты. Потым падчас мантажу гэтыя кадрыкі раскідваюцца па ўсёй перадачы. Мая асабістая памылка ў тым, што на працягу здымак я ўвесь час знаходжуся на фоне гледачоў, а яны ж жывыя людзі, якім і пазяхнуць часам трэба. Што ж датычыць зносінаў публікі з гасцямі праграмы, то важна, каб да нас прыходзілі перш за ўсё людзі зацікаўленыя, калегі па прафесіі нашых герояў.

*— Увогуле, якая рэакцыя тэлегледачоў на праграму? Ці дзейнічае нейкая «зваротная сувязь»?*

— Шмат лістоў з прапановамі: пасля шоу з астролагамі, напрыклад, на нас выйшаў нейкі «вяшчун», які хацеў, каб і яго паказалі таксама. Прычым, калі верыць яго прадказанням, дык ужо да сённяшняга дня павінна было здарыцца ўсё што хочаце, уключаючы канец свету.

Пасля праграмы пра сцюардэс патэлефанавала бабуля, пакрыўджаная тым, што мы не ўзнялі пытанне малой пенсіі былым сцюардэсам. Дык у нас усім сёння пенсію плацяць мізэрную! А пасля перадачы «Мамы» ў рэдакцыю прыйшоў падзячны ліст з Асацыяцыі мнагадзетных сем'яў. Мяне ў ім наогул назвалі «апорай сям'і». Было вельмі прыемна.

*— Якая з амаль паўсотні праграм далася табе з найбольшымі цяжкасцямі? Я чуў, што пасля запрашэння на ток-шоу дыск-жакеяў ты ледзь не атрымаў вымову.*

— Маё кіраўніцтва ніяк не магло ўцяміць, што дзі-джэй — такая ж сур'ёзная прафесія, як урач або юрыст. (Дарэчы, у недалёкім мінулым Каранеўскі сам працаваў дыск-жакеем на Радыё 101,2. — **Ц.Х.**) Была яшчэ складаная сітуацыя, калі мы запрашалі ювеліраў. У загадзя напісаным сцэнарыі, які падаецца кіраўніцтву, мы звычайна ўказваем, хто будзе ўдзельнічаць у праграме. «Наверсе» заўпарціліся: чаму, маўляў, запрошаны толькі прыватныя структуры? Пасля доўгіх тлумачэнняў, што дзяржаўных ювеліраў у рэспубліцы наогул ніводнага не засталося, я вымушаны быў перапісаць назвы арганізацый, у якіх працуюць госці, такім чынам, як яны называліся за савецкім часам.

*— Чаму апошнім часам перадача вядзецца выключна на рускай мове?*

— Праблема ў тым, што пераважная большасць гасцей, нават ведаючы мову, не можа на ёй размаўляць натуральна. І калі я задаю пытанне па-беларуску, а адказваюць мне на яго па-руску, дык атрымліваецца нейкі штучны дыялог.

*— Каму з расійскіх вядучых ток-шоу ты па-добраму зайздросціш?*

— Мне падабаецца, што робіць Познер. Хоць, прызнацца, часам ён вельмі жорстка абыходзіцца з суразмоўцам, калі той не «адыгрывае», тое што ад яго патрабуюць. З задавальненнем глядзеў ток-шоу Угольнікава і Дзіброва. Апошні, дарэчы, нягледзячы на праблемы з нарматыўнасцю мовы, з дыкцыяй, мне бліжэй за самага інтэлектуальнага Радзінскага, таму што задае простыя, жыццёвыя пытанні, блізкія кожнаму гледачу.

*— Прысвечаныя якім прафесіям ток-шоу мы ўбачым у бліжэйшы час?*

— Вельмі цікавымі абяцаюць атрымацца праграмы з удзелам лялькаводаў і венеролагаў. Да прафесійнага свята даішнікаў рыхтуем ток-шоу з іх удзелам. А напярэдадні Дня абароны дзяцей тры госці — з Цэнтра рэпрадукцыі і генетыкі і двух радзільных дамоў (па супадзенню ўсе тры Святланы) — падзеляцца думкамі наконт сённяшняга стану «дзетароднай індустрыі» ў Беларусі.

**Вядучы рубрыкі**
**Цімур ХІЛЬКЕВІЧ.**

## ДЗЕЛЯ АДНОЙ ДЗІЦЯЧАЙ УСМЕШКІ МОЖНА ПЕРАВЯРНУЦЬ ГОРЫ

Чарнобыльская трагедыя не мае межаў і, на жаль, тэрміну даўнасці. Дванаццаць гадоў мінула з моманту гэтай буйнейшай тэхнагеннай катастрофы, а яе наступствы, бясспрэчна, яшчэ доўга будуць ляжаць вялікім грузам на плячах жыхароў нашай рэспублікі. Адно радуе — у гэтай бядзе мы не адны. І сярод тых, хто ўжо на працягу многіх гадоў дапамагае нам, у прыватнасці нашым дзецям, — італьянская дабрачынная экалагічная асацыяцыя «Фэст Амб'ентэ». Прэзідэнт гэтай асацыяцыі Анджэла Джэнцілі ў гэтыя дні зноў прыехаў у Беларусь.

— За гэтыя гады «Фэст Амб'ентэ» арганізавала адпачынак і аздараўленне для 12 тысяч беларускіх дзяцей. Пры гэтым італьянцы падышлі да гэтага пытання даволі прынцыпова. Адно з патрабаванняў асацыяцыі датычыць таго, што дзеці, якія выязджаюць у Італію на аздараўленне, павінны быць або з чарнобыльскай зоны, або з малазабяспечаных сем'яў ці дзеці-сіроты. Акрамя таго, ні адно дзіця не павінна двойчы паехаць на аздараўленне. «Мы лічым, што кожнае дзіця мае права на тое, каб падыхаць свежым паветрам, добра адпачыць. Таму спрабуем прывезці ў Італію як мага больш вашых дзяцей.

**Аляксандр ЛЮШКЕВІЧ,**
**БЕЛТА.**

## НАХОДКА—БРЭСТ: РЭЙС ПАСПЯХОВЫ!

Праведзены першы скарасны дэманстрацыйны рэйс эксперыментальнага кантэйнернага поезда Находка—Брэст. Як паведамілі ў прэс-службе Беларускай чыгункі, адкрыццё гэтага новага маршруту адбылося пры падтрымцы Эканамічнай камісіі ААН.

**Таццяна СМІРНОВА,**
**БЕЛТА.**

*ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...*

## ...СОНЦА ВЫПАЛІЦЬ ЗЯМЛЮ

Гарачае надвор'е, што раптоўна і ўпэўнена ўсталявалася на Беларусі, прынесла вяскоўцам і дачнікам падставы для хваляванняў.

Аднак пакуль турбавацца не варта: спецыялісты Гідраметцэнтра аўтарытэтна заявілі, што кліматычная сітуацыя не выклікае ніякіх апасенняў. Пакуль усё ідзе па звычайнаму сцэнарыю.

Зоркі салідарныя з меркаваннем метэаролагаў. Астролаг Вераніка Кудраўцава таксама аўтарытэтна запэўніла карэспандэнта «Звязды», што сёння і заўтра беларусам сонца не пагражае. Але першая палова ліпеня для сельскай гаспадаркі выдасца гарачай у прамым сэнсе гэтага слова. «Другая серыя» спякоты толькі ў яшчэ большых маштабах (пачнуць гарэць лясы) адбудзецца ў канцы жніўня-пачатку верасня. (Заўвага: пажары ў лясах і на балотах здараюцца ледзь не кожнае лета.) Аднак чакаць засуху і рыхтаваць сухары на выпадак голаду не варта. Усё будзе добра.

Дарэчы, зоркі прадказваюць «спякоту» ў палітычным, а таксама фінансавым жыцці рэспублікі. У прыватнасці, можа пачаць «гарэць» беларускі рубель...

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## РЫБЫ МОГУЦЬ СПАДЗЯВАЦЦА НА ВОЛЮ ПЛАНЕТ

### Усходні гараскоп на наступны тыдзень

КАЗЯРОГ адправіцца ў падарожжа, якое будзе не надта прыемным, але затое карысным. Планеты раяць праяўляць большую асцярожнасць у адносінах са спадарожнікамі. Сябры паспрабуюць завалодаць вашым часам, і зносіны з імі адцягнуць ад работы. Удача выпадзе камерсантам, а тым, хто пачынае новы бізнес, рэкамендуем праяўляць больш цярплівасці і прасоўвацца наперад, не фарсіруючы падзеі.

ВАДАЛЕЙ даб'ецца добрых вынікаў у дзелавой дзейнасці, калі праявіць стараннасць і працавітасць. Вашы фінансавыя збераражэнні ўзрастуць настолькі, што іх значную частку можна будзе інвесціраваць у выгадную справу. Здароўе пачне патроху здаваць, і тут без дапамогі медыкаў не абысціся. Магчымы рамантычныя прыгоды, якімі, аднак, не варта моцна захапляцца.

РЫБЫ ва ўсім могуць спадзявацца на волю планет, якія цалкам прыхільныя да ўсіх Вашых спраў, акрамя сардэчных. Начальнікам давядзецца больш сачыць за дзейнасцю падначаленых, якія могуць дапусціць памылкі ў рабоце. Самы час, каб ажыццявіць продаж нерухомасці. Поспех чакае вучоных і работнікаў разумовай працы, фінансавае становішча якіх стане калі не выдатным, дык, ва ўсякім разе, лепшым за ранейшае.

АВЕНЫ будуць задаволены становішчам фінансавых спраў і бізнесу. На гэтым тыдні можна чакаць поспеху ад экспартных аперацый і гандлёвых здзелак. Не забараняецца пачынаць пашырэнне бізнесу і пошук новых сфер прыкладання капіталу. Пры ўсім пры гэтым планеты, аднак, рэкамендуюць больш увагі ўдзяляць асабістым справам і не надта хвалявацца з-за таго, што адбываецца на працы.

ЦЯЛЬЦЫ павінны будуць праявіць асаблівую ўвагу да работы з рознымі дакументамі і важнымі паперамі. Не давайце нікому знаёміцца з іх зместам — такая цікаўнасць можа вам моцна пашкодзіць. Ваша фінансавае становішча хутка паляпшаецца. Але не нанясіце самі сабе ўрону неабдуманымі дзеяннямі. Палітыкам трэба быць асабліва асцярожнымі ў чацвер і ўважліва сачыць за сваімі словамі з высокіх трыбун.

БЛІЗНЯТЫ атрымаюць задавальненне ад рамантычных прыгод і сардэчных захапленняў. За імі не забывайцеся пра неабходнасць сувымяраць расходы з даходамі. Устрымлівайцеся ад буйных трат пры наведванні магазінаў. Вам давядзецца зноў абдумаць планы аб замежнай паездцы і ўнесці ў іх карэктывы. Прасоўванне па службе гарантаванае, але падзея гэтая наступіць яшчэ няскора.

РАК на ўрадавай службе атрымае павышэнне. Гэта пацвердзіць, што любая геранічная праца не застанецца без узнагароды. Да вяршыні славы наблізяцца прадстаўнікі творчых прафесій, блізкія да ажыццяўлення сваёй мары тыя, хто даўно марыць аб падарожжы за мяжу. Поспех будзе спадарожнічаць вырашэнню судовых спраў і ўрэгуляванню праблем з уплатай падаткаў. Пратэкцыя не дапаможа студэнтам, якім давядзецца разлічваць на саміх сябе.

ІЛЬВАМ у аўторак трэба будзе прыняць важнае рашэнне, і вы яго прымеце. Дзяржслужачыя па волі нябёсаў працягнуць паспяхова каваць сваю будучыню, камерсанты адправяцца ў невялікае дзелавое падарожжа. Могуць зноў узнікнуць праблемы з уласнасцю, што разам з дрэнным надвор'ем не дасць вам атрымаць асалоду ад рамантычных прыгод.

ДЗЕВА атрымае прызнанне сваіх здольнасцяў дома і за мяжой. Гэта аднак датычыцца толькі юрыстаў і медыкаў, а ўсім астатнім такая ўдача ўсміхнецца крыху пазней. Пачынаючым вадзіцелям планеты раяць падвоіць асцярожнасць на дарогах. Бізнесмены атрымаюць добрую рэкамендацыю ад партнёраў і змогуць з яе дапамогай выйсці са складанай сітуацыі. Муж і жонка, якія збіраюцца падаць на развод, уладзяць канфлікт мірам і вырашаць жыць разам да брыльянтавага юбілею свайго вяселля.

ШАЛІ ў наступныя сем дзён змогуць значна павялічыць свае даходы. Усе катэгорыі навучэнцаў і тых, хто настаўляе на правільны шлях, атрымаюць выдатную кампенсацыю за сваю працу. Хто, зразумела, ацэнкамі, а хто і грашыма. Планеты прыхільна настроеныя да вашых працяглых падарожжаў з сям'ёй. Рамантычныя захапленні разам з прыгодамі такога роду, на жаль, не прынясуць чаканых вынікаў.

СКАРПІЁНЫ на дзяржслужбе нечакана атрымаюць добрыя дывідэнды. Для ўсіх астатніх таксама гарантаваныя поспехі ў фінансавай дзейнасці. Не ва ўсім спадзявайцеся на дзелавых партнёраў, якія мараць падрэзаць вам крылы. Дома чакаюцца ўрачыстасці з нагоды нараджэння нашчадка ці блізкага шлюбу. Судовая цяжба скончыцца з выгадай для вас. Невялікі дыскамфорт можа прынесці з'яўленне праблем са зрокам.

СТРАЛЬЦЫ могуць ісці наперад у рэалізацыі планаў аб пачатку сямейнага бізнесу. Планеты спрыяюць здзелкам з нерухомасцю і настроены супраць канфліктаў у Вас на рабоце. Палітыкам трэба выканаць задуманае. Тое ж самае чакае моладзь, якая марыць аб вучобе за мяжой. У Вас будзе магчымасць набыць аўтамабіль, і з ім ці без яго апынуцца на шляху да рамантычных прыгод.

**Леанід КОТАЎ,**
**кар. ІТАР—ТАСС.**

*г. Дэлі.*



***Наступны нумар «Звязды» выйдзе ў аўторак, 5 мая.***

## Кампенсацыю па ўкладу загінуўшага сына атрымаць пакуль немагчыма

*У майго сына застаўся ўклад у Ашчадбанку з 1991 года. Сын трагічна загінуў у 1994 годзе. Чула, што ўклады будуць кампенсаваны. Ці магу я, і калі, атрымаць грошы сына, а таксама кампенсацыю па яго ўкладу? Мне 62 гады. Ці будзе ўлічвацца пры вырашэнні гэтага пытання мой ужо немалады ўзрост?*

**Яніна РЫЖЭЎСКАЯ**, в. Сукоўцы Уздзенскага раёна.

З гэтым пытаннем рэдакцыя звярнулася ў дэпартамент па рабоце з фізічнымі асобамі АСБ «Беларусбанк». На думку суразмоўцы, сам уклад загінуўшага Яніна Рыжэўская атрымаць можа ў тым выпадку, калі яна з'яўляецца самым прамым наследнікам сына (калі ў яго не было ні жонкі, ні дзяцей). Што датычыцца кампенсацыі, то тут усё больш складана. Па праекту ўрадавага рашэння аб кампенсацыі, у першую чаргу кампенсацыйныя выплаты, якія будуць налічвацца на іх асабістыя ўклады, атрымаюць людзі састарэлыя. У той жа час, не выключана, што ў канчатковым варыянце ўрадавага рашэння аб кампенсацыі будзе прадугледжана выплата кампенсацый і ў выключных выпадках.

## Як інжынеру зноў стаць студэнтам?

*Паважаны «Пытальнік», я маю вышэйшую адукацыю і спецыяльнасць «інжынер-электрык». Жадаю працягваць навучанне на завочным аддзяленні фізіка-матэматычнага факультэта ў педагагічным універсітэце. Падкажыце, калі ласка, на якіх умовах я магу гэта зрабіць: на які курс я магу трапіць, ці давядзецца мне плаціць за вучобу і ў якіх памерах, і час паступлення.*

**М. С. ШЫШКО,** в. Чуркі, Ашмянскі раён.

У прыёмнай камісіі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М. Танка нам паведамілі, што атрыманне другой вышэйшай адукацыі адбываецца ў нашай краіне толькі на ўмовах поўнай аплаты вучобы. У сёлетнім навучальным годзе гэта сума складала ва універсітэце 33 мінімальныя заработныя платы ў год.

Майце на ўвазе, што фізіка-матэматычнага факультэта ў гэтай навучальнай установе няма: існуюць асобна матэматычны і фізічны факультэты. Прычым завочная форма навучання ёсць толькі на матэматычным факультэце.

Для таго, каб вызначыць, на якім курсе вы будзеце вучыцца, вам трэба звярнуцца са сваімі дакументамі (дыпломам і выпіскай з дыплома) да дэкана факультэта, каб ён змог параўнаць вучэбныя планы. Хутчэй за ўсё, вам прыйдзецца праходзіць пры паступленні ў навучальную ўстанову субяседванне. Тэрмін правядзення субяседванняў — 20—29 мая. Прыём дакументаў заканчваецца 18 мая. Па ўсіх пытаннях, якія вас дадаткова цікавяць, звяртайцеся ў прыёмную камісію па тэл. (017) 220-94-17.

## Якія правілы паводзінаў вадзіцеля пры ДТЗ?

*Учынена ДТЗ: машынай быў збіты веласіпедыст — мой муж, які праз чатыры дні памёр у бальніцы, пакінуўшы сіротамі дваіх дзяцей... Што павінен зрабіць вадзіцель пры ўчыненні дарожна-транспартнага здарэння?*

**Лідзія БЕРАЗУНЬ,** г. Любань.

Згодна з Правіламі дарожнага руху (пункт «Дзеянні вадзіцеляў і іншых удзельнікаў дарожнага руху пры дарожна-транспартных здарэннях»), вадзіцелю, які мае дачыненне да ДТЗ, у прыватнасці, прадпісваецца: «прыняць магчымыя меры для аказання даўрачэбнай медыцынскай дапамогі пацярпелым, выклікаць «хуткую медыцынскую дапамогу», а калі гэта немагчыма, адправіць пацярпелых на спадарожнай ці адвезці на сваім транспартным сродку ў бліжэйшую лячэбную ўстанову, паведаміць там сваё прозвішча, нумарны знак транспартнага сродку (з прад'яўленнем вадзіцельскага пасведчання ці іншага дакумента, які сведчыць асобу, і рэгістрацыйнага дакумента на транспартны сродак) і вярнуцца да месца здарэння». У гэтым жа пункце ёсць і такое патрабаванне: «Пры неабходнасці вызвалення праезнай часткі ці дастаўкі пацярпелых на сваім транспартным сродку ў лячэбную ўстанову папярэдне зафіксаваць у прысутнасці сведак становішча транспартнага сродку, сляды і прадметы, якія маюць дачыненне да здарэння».

## Што гэта за слуп каломенскай вярсты?

*Нярэдка ў перыядычным друку і мастацкай літаратуры трапляецца такі выраз: «каломенская вярста». Ды і ў час размовы можна пачуць: «Ну ты і вымахаў, як каломенскі слуп». Адкажыце, калі ласка, што азначае і адкуль пайшла гэтая назва?*

**С. РАМАНЧЫК**, г. Мінск. (Пытанне прынята па тэлефоне)

Думаецца, чытач ведае, што вярста — гэта старая руская мера даўжыні, якая раўняецца 500 сажням (дарэчы, таксама былая даўняя мера даўжыні), або 1,0668 кіламетра. Да XVIII стагоддзя існавала межавая вярста, у якой было 1000 сажняў — 2,1336 км). Яна выкарыстоўвалася для межавання і вызначэння адлегласці паміж населенымі пунктамі.

А вось «каломенская вярста» атрымала сваю назву ад былога сяла Каломенскае, якое знаходзілася на высокім правым беразе р. Масквы (з 1960 г. яно апынулася ў межах сталіцы). Гэта паселішча вядомае з XIV стагоддзя. У XV—XVII стст. з'яўлялася сядзібай рускіх цароў. Пры цару Аляксею Міхайлавічу, у якога тут быў палац, ад Каломенскага да Масквы былі пастаўлены высокія, значна вышэйшыя, чым на іншых дарогах, верставыя слупы. Яны, як і пазначаныя імі адлегласці, называліся вёрстамі.

У народзе «каломенскім слупам», ці «каломенскай вярстой» часцей за ўсё жартам называюць чалавека вельмі высокага росту.

**Адказы падрыхтавалі Сяргей КУРКАЧ, Надзея НІКАЛАЕВА, Сяргей РАСОЛЬКА і Іван БРАЛКА.**

*РЭХА ПУБЛІКАЦЫІ*

## НЕСПАДЗЯВАНАЯ СУСТРЭЧА

Прачытала ў «Звяздзе» нарыс пра незвычайнага чалавека — «беларускага негра» Аляксандра Андрэевіча Дзямідава («Сашкаў паравоз», № 72). Вельмі ж усхваляваў мяне лёс гэтага неардынарнага чалавека. Адчувалася, што і ў самога аўтара — Валерыя Перзашкевіча — ён выклікаў пачуцці сімпатыі, чалавечай павагі. Таму, напэўна, і матэрыял атрымаўся ўражальным, запамінальным.

І трэба ж такому здарыцца! Праз колькі дзён пасля таго, як прачытала той матэрыял, быццам бы ў сне, неспадзявана сустрэлася з героем нарыса.

Стаю гэта я на аўтобусным прыпынку, што на вуліцы Ляўкова. Аўтобус № 10, якога чакаю, ходзіць з працяглым інтэрвалам. Стаю, чакаю. Раптам да прыпынку падыходзіць «выліты афрыканец» з такім добрым, адкрытым тварам. Гляджу — і вачам сваім не веру — ды гэта ж ён, герой, намаляваны ў «Сашкавым паравозе». У газеце на першай старонцы быў змешчаны яго партрэт. На нейкае імгненне засумнявалася, а потым успомніла: з матэрыялу можна было зрабіць выснову, што «афрыканец» невысокага росту. І сапраўды — гэты чалавек невысокі, ды і выгляд яго надта «абеларушаны».

Не вытрымала, падышла і, папрасіўшы прабачэння, мажліва, за непажаданы зварот, спытала:

— А ці не пра вас гэта пісала «Звязда»?

Ён быццам сумеўся на нейкае імгненне ад нечаканага пытання, — і адказаў:

— Ды пра мяне, пра мяне ж... — І дадаў: — Гэта адзіная газета, якая шчыра і праўдзіва напісала аб маім жыцці.

— А раней што-небудзь недакладна пісалі ці неяк пакрыўдзілі вас?

Але, як відаць, ён чалавек стрыманы ў катэгарычных ацэнках, тым болей пры сустрэчы з выпадковым чалавекам, таму быў скупы на словы. І ўсё ж можна было зрабіць выснову, што такі лёс, як яго, — вялікая спажыва для аматараў сенсацый. А сенсацыя, здараецца, мяжуе з вымыслам, перабольшаннем. Уразіць чытача незвычайнай падзеяй, навіной — не супраць тыя, што ганяюцца за сенсацыяй. Але такому чалавеку, як Аляксандр Андрэевіч, даражэй, калі з яго лёсу, няхай сабе і складанага, і непадобнага ні на чый іншы, не робяць сенсацыі, а спрабуюць зазірнуць у душу, зразумець, падтрымаць. Або проста па-чалавечы праўдзіва расказаць, як гэта зрабіла «Звязда». Сапраўды — няхай іншыя людзі ведаюць, што сярод іх жывуць такія цікавыя героі, лёс якіх варты кінематаграфічнага ўвасаблення.

Кароткая сустрэча з гэтым цікавым чалавекам пакінула прыемнае ўражанне, выклікала шмат думак, разважанняў аб тым, як чалавек сам можа распарадзіцца сваім лёсам, як шмат залежыць ад яго самога, а таксама ад тых, хто побач з ім. І што ўсё гэта і ёсць жыццё.

**Лідзія ДАНІЛЕВІЧ.**

*УСМЕШКА МАСТАКА*




**Малюнак Аляксандра КУРЫЛЫ.**

*СІТУАЦЫЯ*

## ЧУЖАЯ РАДНЯ

**ПА ЗАКОНУ яны і не радня ніякая. Проста жылі разам дзевятнаццаць гадоў, то разыходзячыся, то сыходзячыся зноў. Дый на паверку яны — зусім-зусім розныя людзі, нічога, здаецца, няма агульнага. Хіба што дзве дачкі, за тыя дзевятнаццаць гадоў нажытыя. Быў яшчэ дом, у якім жылі адной сям'ёй, у якім жывуць дагэтуль — усе разам, але паасобку. Дом падзелены ўздоўж фанернай тонкай сцяной. Нягледзячы на знешнюю слабасць і нетрывыласць, сцяна гэта — непераадольная мяжа. Бо па абодва яе бакі вось ужо амаль дзевяць гадоў жывуць у зацятым маўчанні дзве розныя праўды...**

... Калі яны сышліся больш за трыццаць гадоў таму, ні ён, ні яна не думалі, што гэта будзе надоўга. Альбіна Купрыянаўна, якой было тады ўжо за трыццаць, вельмі хацела мець дзіця. У яе была аднапакаёўка, выдзеленая ад фабрыкі, на якой працавала, і хацелася не адной сустрэць старасць у гэтай пустой кватэры, тут і пазнаёмілася яна з маладым ваенным Аляксандрам Васільевічам. Статны, прывабны, здаровы, на пяць гадоў маладзейшы, без шкодных звычак, як зараз пішуць... Што яшчэ было патрэбна для бацькі будучага дзіцяці? Дый... «Усё-ткі і каханне нейкае было», — скажа Альбіна Купрыянаўна нават цяпер, калі столькі гразі выліта, калі адзіны спосаб зносінаў — злоснае панурае маўчанне... Сустракаліся, потым Аляксандр Васільевіч ажаніўся, але... не з ёй. Яна, уласна кажучы, не пярэчыла: свабодныя ж людзі. Гэтак жа сама як не пярэчыла, калі, пажыўшы з маладой жонкай няпоўныя тры гады і нажыўшы дваіх дзяцей, зноў вярнуўся да яе...

У 66-м з'явілася доўгачаканая дачка. Здавалася б, місія выканана, можна адпусціць чалавека на ўсе чатыры. Але ён чамусьці не пайшоў. Хаця... «Я ёй сказаў: хочаш жыць са мной — жыві. Але распісвацца я з табой не буду. Я — свабодны чалавек...» Так і жылі — як свабодныя людзі. Гадавалася дачка — запісаная на маці. А потым Аляксандр Васільевіч забраў сваю незаконную сям'ю ў бацькоўскі дом, на ўскраіну Бабруйска. Там жа, побач, на выдзеленым участку, яны пачалі (усё ж асмелюся напісаць «яны» і «пачалі», хоць іменна гэта фармулёўка і стане краевугольным каменем ва ўсіх судовых спрэчках) будаваць новы дом, свой. Пакуль будаваўся дом, на свет паспела з'явіцца яшчэ адна дачка. Пытанне аб рэгістрацыі шлюбу Альбіна Купрыянаўна ўзняла толькі аднойчы: калі ўзнікла пытанне, на каго запісваць другое дзіця. «Ён пайшоў разводзіцца з першай жонкай, але ў судзе трэба было заплаціць сто рублёў — вялікія па тым часе грошы. Так і пакінулі ўсё як ёсць», — уздыхае Альбіна Купрыянаўна. «Так, я хацеў развесціся, але сталі патрабаваць сто рублёў, і я падумаў: навошта? Распісвацца ж я ўсё роўна не збіраўся», — у Аляксандра Васільевіча свая версія...

Дваццаць гадоў таму назад яны, нарэшце, згулялі наваселле. Альбіна Купрыянаўна прапісалася ў новай хаце — і яе кватэра перайшла дзяржаве. Усе масты былі спаленыя, ды і не думала, напэўна, кудысьці ісці з новага дома з двумя дзецьмі. Якая розніца, што шлюб не зарэгістраваны? Быў свой дом, былі дзеці, быў у хаце гаспадар — жыць бы, здавалася, ды жыць...

Толькі не заладзілася чамусьці жыццё. Гэта зараз Аляксандр Васільевіч абвінавачвае маці сваіх дзяцей у неахайнасці і скандальнасці характару, а Альбіна Купрыянаўна яго — у тым, што «гуляў» і не даваў грошай на ўтрыманне дзяцей. Гэта ці іншае стала прычынай канчатковага разрыву — не скажа цяпер ніхто. Так ці інакш — калі ў 83-м Аляксандр Васільевіч вярнуўся з санаторыя, вырашылі: будзем жыць паасобку — ты з дзецьмі сабе, я — сабе. Свабодныя ж людзі...

Так і жылі пяць гадоў пад адным дахам. Прывыклі ўжо, здавалася б. Але раптам Аляксандр Васільевіч пачаў будаваць сценку — дзяліць хату ўздоўж. Навошта? «Я рашыў: калі паасобку, дык паасобку!» — коратка, як адрэжа, скажа мне пры размове. Чым, здавалася, блага было: за святло, газ, ацяпленне плаціла тады незаконная жонка. Можа, проста вочы дачок не давалі спакойна жыць? «Я яго прасіла: давай падзелім вось так, упоперак. Тады сонца будзе і на адной, і на другой палове. А другія дзверы ці так, ці так давядзецца прарэзаць...» Але гаспадар не згадзіўся і стаяў на сваім: ты з дачкой у паўночную частку, я — застаюся ў паўднёвай, у той, у якой уваход...» Тады Альбіна Купрыянаўна вырашыла: як суд падзеліць, так і будзе, і падала іск на Аляксандра Васільевіча. Суд адбыўся ў маі 89-га і пастанавіў: падзяліць дом папалам, уздоўж, як і хацеў гаспадар, але сонечную палову з уваходам аддаць былой сужыцельніцы і дачцэ. Суд абавязаў Альбіну Купрыянаўну ўзвесці сценку паміж палавінамі, а Аляксандра Васільевіча — зрабіць дзверы на сваёй частцы. Дзверы ён зрабіў, а вось сценку пачаў перыядычна разбіраць, лічачы, што суд абышоўся з ім несправядліва. Зацятага маўчання тады яшчэ не было, і можна толькі ўяўляць, з якім гукавым суправаджэннем усё адбывалася. Альбіна Купрыянаўна забівала сценку нанова, але калі знайшла яе разабранай трэці раз — падала заяву ў міліцыю. Аляксандра Васільевіча забралі і накіравалі... у псіхіятрычную бальніцу на абследаванне: ці адказвае, маўляў, за свае ўчынкі. Праз месяц медыкі заключылі: абсалютна нармальны, за ўчынкі адказвае. Судзілі нязгоднага гаспадара па артыкулу 196 (самаўпраўства) і аблажылі штрафам у памеры 500 рублёў (справа адбывалася ў 93-м годзе). Перагародка з'явілася зноў...

Вось ужо амаль восем гадоў Аляксандр Васільевіч дабіваецца сваёй праўды. Падаваў заявы ў Вярхоўны суд і пракуратуру рэспублікі, пісаў у Адміністрацыю Прэзідэнта і ў Савет жанчын, прыйшоў, нарэшце, у нашу рэдакцыю... Праўда яго такая: жанчына, што жыве за перагародкай, па закону яму — ніхто, дом, які ён будаваў толькі сваімі сіламі і толькі за ўласныя грошы, — яго прыватная ўласнасць, і таму Альбіна Купрыянаўна не тое што на палову — на адзін квадратны сантыметр яго ніякага права не мае. Аляксандр Васільевіч скончыў калісьці школу міліцыі, і лічыць, што юрыдычным бокам справы валодае выдатна. Таму і даказвае ўсюды незаконнасць суда, на якім адбыўся падзел: і сведкі былі не тыя, і засядацеляў памянялі, і яшчэ безліч нейкіх дэталяў, ад якіх у чалавека з неправаахоўнага асяроддзя проста галава круціцца... Аляксандр Васільевіч проста ўпэўнены, што закон на яго баку, і марыць у хуткім часе Альбіну Купрыянаўну не толькі выгнаць з хаты, але яшчэ і да крымінальнай адказнасці прыцягнуць: за самаўпраўства, за тое, што хадзіла па яго падлозе, будавала ў яго хаце перагародку, жыла ў ёй, нарэшце... Па ўсё тым жа 196-м артыкуле ў Крымінальным кодэксе, які ўжо некалькі гадоў — яго настольная кніга...

У Альбіны Купрыянаўны — праўда свая: ну і што, што яна не заўсёды дапамагала на будоўлі, — у гэты час яна нараджала і выхоўвала яго дзяцей, гатавала яму есці. Чым ён дакажа, што яна не ўкладвала сваіх грошай у будоўлю? Давала яна грошы, кожная капейка на дом ішла! Не яна сонечную палову заняла — суд так пастанавіў. Выдзелілі б тую, цёмную — пайшла б у тую! І нікуды яна не пойдзе — гэта і яе дом. Дваццаць гадоў ужо ў ім жыве, дый ісці ёй адсюль няма куды. Хаця, каб не малодшая, незамужняя яшчэ дачка — ёй бы адной і пакойчыка хапіла, няхай бы забіраў усё астатняе. Але ж крывінка тады ні з чым застанецца, ён жа ёй нічога не пакіне, бо і дзеці для яго — ворагі...

У іх двары дагэтуль адна брамка — на палове Альбіны Купрыянаўны. Каб трапіць на палову Аляксандра Васільевіча — трэба прайсці пад самымі вокнамі. А пад вокнамі — клумбы Альбіны Купрыянаўны. Каб не патаптаў парасткі кветак, гаспадыня абгароджвае іх калкамі. Гаспадар калкі ўпарта адстаўляе ўбок: замінаюць пад нагамі...

... Аляксандр Васільевіч да сустрэчы ўжо падрыхтаваўся: праз сцяну усё чуваць, нават калі гаворыш напаўголаса. Ён і не хавае гэтага: «Ну што, чуў я, як яна вам прыгожа ўсё распавяла...» І зноў цягнецца да папер «па справе», збіраючыся нешта патлумачыць... А мяне зусім не тое цікавіць...

— Аляксандр Васільевіч, вы ж, атрымліваецца, і родную дачку на вуліцу выкінуць хочаце? — сцвярджаю-пытаюся асцярожна. Аказваецца, тут усё ў парадку, сумленне не грызе: дачка для яго — адрэзаны кавалак, пасля таго, як пачуў ад суседзяў, што яго Аксанка заявіла сяброўцы: «Няхай бы мой татка лепш памёр...» Прыязджае летам унучка, дачка старэйшай, ходзіць па адным двары і да яе — ні слова: яна ж не толькі ягоная ўнучка, але і той варагіні, што жыве за сцяной... З дзецьмі ад першай жонкі, з якой па сённяшні дзень у законным шлюбе, таксама адносіны не склаліся — яны ж яго амаль не ведаюць. Толькі і засталося радасці ў жыцці — дабіцца «праўды», адваяваць дом.. Але што рабіць аднаму ў вялікім пустым доме?

А старасць ужо не тое што на ганку — у дзвярах стаіць. Зараз пойдзе дачка замуж — і застануцца ў разбітай напалам хаце два старыя чалавекі, якія калісьці, напэўна, і кахалі адзін аднаго... «А калі раптам прыйдзе ён да вас і прапануе: гары яна, тая сцяна, давай разам старасць дажывём, — што вы адкажаце?» — пытаю ў жанчыны. «Не, ён ніколі не прыйдзе», — адказвае яна. І на маё здзіўленне, раптам спахопліваецца: «Хаця ў душы ён чалавек неблагі»...

Стаіць прыгожы, дыхтоўна збудаваны дом. Нязграбна падзелены ўздоўж на вузкія доўгія пакойчыкі. Маці і дачка гавораць шэптам — на другой палове ўсё чуваць. А з паўночнага боку, за пісьмовым сталом сядзіць, унурыўшыся ў Крымінальны кодэкс, адзінокі стары чалавек. І між імі — тонкая трывалая сцяна, якую не разбурыць ужо, напэўна, ніякі суд...

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

*Бабруйск—Мінск.*

# «Надары, Божа, маю кароўку добрым здароўем, жоўтым маслам, белым сырам»

**У папярэднім артыкуле гаворка ішла пра некаторыя асаблівасці народнага вопыту свінагадоўлі. Але ж агульна-вядома, што самай галоўнай істотай уласнай гаспадаркі была карова. Сырадоем, адтопленым малаком або сонечна- жоўтым маслам ласаваліся і старыя, і малыя і ў дзень будзенны, і ў дзень святочны. Традыцыйная кухня беларускага сялянства налічвае добрую сотню страў, уявіць сабе якія без малака ці малочных прадуктаў проста немагчыма. Гэта і блінцы, наліснікі з тварагом, адтопленае малако са смятанай, дранікі або бабка з халодным малаком, якое прастаяла дзень у склепе ў «дыхаючым» гліняным збанку...**

**З гэтай нагоды з боку гаспадароў да каровы было асаблівае стаўленне. Яе прыдзірліва і няспешна выбіралі на базары, шанавалі і песцілі, як дзіця, на працягу ўсяго дойнага перыяду, засцерагалі ад нядобрага вока, не дазвалялі лаянкі ў яе адрас, начамі не спалі, чакаючы ацёлу, гатовыя ў любы момант прыйсці на дапамогу. У час падрыхтоўкі да выдання зборніка «Магія слова чароўнага» я быў нечакана здзіўлены адной акалічнасцю. Класіфікацыя народных замоў, запісаных ад старых людзей з розных куточкаў Беларусі, высвеціла цікавую заканамернасць. Аказалася, што народныя лекары ў сваёй прафілактычна-лячэбнай практыцы выкарыстоўваюць да 30 разнавіднасцяў тэкстаў замоў, якія суправаджаюць перыяд жаночай цяжарнасці і родаў. Практычна такая ж колькасць народных лекаў можа быць скарыстана для дапамогі нашай рагулі, ад якой мы чакаем прыплоду. Цікавая дэталь: у тэкстах некаторых ахоўных замоў яны таксама стаяць побач: «Ёсць на небе тры зарніцы, і ўсе яны памачніцы: адна да жынак, другая да дзевак, трэцяя да кароў».**

**Давайце ж ціхенька адхінем фіранку і ўважліва паназіраем за паводзінамі гаспадароў, за іх штодзённым клопатам у развядзенні буйной рагатай жывёлы.**

## КУПЛЯ-ПРОДАЖ КАРОВЫ

Камерцыйны акт куплі-продажу каровы і далучэння яе да новых гаспадароў займаў у культуры нашых продкаў надзвычай важнае месца. Справа ў тым, што гэты юрыдычны факт быў не простай фармальнай падзеяй перадачы жывёліны з адных гаспадарскіх рук у іншыя, а хутчэй спецыфічным рытуалам, ад дакладнага выканання якога залежаў далейшы дабрабыт і пакупніка, і прадаўца. Парушэнне пэўных элементаў абрадавага дзеяння магло прывесці да таго, што карова лёгка прыжывалася ў новых гаспадароў, але затое папярэднія пасля гэтага доўга не маглі набыць, завесці або выгадаваць пяршачку. Натуральна, што адзіна правільным было строгае выкананне адвечных звычаяў, якое гарантавала абодвум бакам надзейны дабрабыт і штогадовы прыплод. Небяспека таго, што парушэнне рытуалу магло прывесці да непрадказальных наступстваў, вымагала ад кожнага з бакоў быць абачлівым і асцярожным, уважліва сачыць за маніпуляцыямі партнёра, тым часам хітра і тонка прыхоўваць свае.

Але наперад трэба было вырашыць яшчэ адну важную праблему: якой масці можна было купляць карову, бо ў народным асяродку да нашага часу жыве вера ў тое, што гаспадаром-ахоўнікам хаты і двара з'яўляецца дамавік. І калі яму не спадабаецца масць каровы, ён зжыве яе са свету. Найбольшае пашырэнне набыла традыцыя выбіраць жывёлу такой масці, якога колеру валасы ў гаспадара або ў адпаведнасці з масцю кошкі. Вядомы і больш складаныя спосабы вырашэння гэтага пытання. Напрыклад, калі доўга не шанцуе ўдала выбраць карову, гаспадар выконвае наступнае магічнае дзеянне. Як толькі вясной ён убачыць першую ластаўку, то тут жа на абцасе правай нагі перакруціцца, затым возьме з таго месца жменю зямлі і ўважліва ўглядаецца, якога колеру волас ці шарсціну знойдзе (а знойдзе абавязкова, невядома адкуль і возьмецца), той масці трэба купляць карову або каня.

У прадаўца жывёлы былі свае «сакрэты»-прадказанні, па якіх ён спрабаваў павярнуць ход падзей на сваю карысць. Агульнавядомая забарона прадаваць карову пасля ацёлу, гэтаксама нельга было прадаваць і першае цяля. Лічылася, што тым самым перапынялася плоднасць гэтай жывёлы і значна пагаршалася яе малочнасць. Прыкладна такі ж лёс мог напаткаць гаспадарку, калі карову прадавалі са свайго хлява. Акт куплі-продажу лепш было здзяйсняць на нейтральнай тэрыторыі — на базары.

Перад тым, як адправіцца на торг, гаспадар выводзіў карову на сярэдзіну двара і выстрыгаў на яе лбе і спіне два крыжы, каб ніхто не сурочыў і чыя-небудзь цяжкая рука «не звяла» ўсю жыўнасць. Калі ж прадавалі цяля, то некалькі шарсцінак выстрыгалі з яго крыжа, каб карова не перастала даіцца. У некаторых мясцінах аналагічную маніпуляцыю выконвалі на скрыжаванні дарог. У прыёме выстрыгання поўсці зніталіся два аспекты народнай магіі. З аднаго боку, затыканне поўсці ў сцяну хлява спрыяла захаванню плоднасці і ўдойнасці, а з другога — пакінутыя валасы як бы перадавалі гэтыя вартасці прадаваемай жывёлы тым, хто будзе тут жыць надалей.

Гэты рытуал не адзінкавы. Напрыклад, каб захаваць ураджайнасць нівы, жнеі абавязкова пакідалі на полі «Вялесаву бараду» — некалькі спелых каласоў. Асаблівую цікавасць выклікае падобнае дзеянне ў дачыненні да людзей. Добра вядома, што першы раз стрыгчы дзіця дазвалялася толькі ў той дзень, калі яму спаўняўся адзін год. Як правіла, гэтыя валасы захоўваліся за іконай на працягу ўсяго жыцця чалавека. І толькі ў адзіным выпадку дазвалялася развязваць вузельчык з гэтым незвычайным скарбам. Калі адпраўлялі сына ў войска, то перад тым, як ён пакіне хату, матуля брала нажніцы і выстрыгала з галавы сына некалькі валасінак. Выстрыжаную паску яна клала ў вузельчык з валасамі першага пастрыгу, а адтуль, у сваю чаргу, брала некалькі тых, ранейшых валаскоў, клала іх у нацельны кулон або мяшочак, і сын на працягу ўсёй службы насіў іх з сабой. Гэта быў абрад сімвалічнага «прывязвання» сына да сваёй хаты і надзейная гарантыя таго, што ён вернецца дадому жывы і здаровы.

Пакупнік прыдзірліва ўглядаўся, на якой частцы воза сядзела гаспадыня. Існавала пераканаласць: калі яна ўселася на пярэдняй восі або пасярэдзіне, то гэта сведчыла аб яе чарах з мэтай адабраць малако ў прадаваемай каровы. Часам гаспадыню прасілі злезці з воза. Калі яна злазіла, меркавалі, што нічога дрэннага яна не рабіла, калі ж адчайна супраціўлялася, карову ў яе проста не куплялі.

Існавала павер'е: калі прададзеную скаціну шкадаваць, то яна не прыжывецца ў новых гаспадароў. Пакупнік заўсёды прасіў прадаць карову разам з вяроўкай, на якой яе прывялі на базар (адсюль і прыказка: «Прапала кароўка, прападзі і вяроўка»).

Аднак продаж вяроўкі мог скончыцца тым, што гаспадар-прадавец мог пазбавіцца спору ў сваім хляве. Таму на базар вялі на вяроўцы, спецыяльна купленай для гэтай падзеі. Лічылася абавязковым перадаваць аброць ці вяроўку не голымі рукамі, а толькі праз крысо верхняй вопраткі. Пры гэтым вяроўка перадаецца толькі з правай рукі прадаўца ў правую руку пакупніка; рука пакупніка абавязкова павінна быць зверху. Па тлумачэнню Ул. Даля, гэта было знакам таго, што гаспадар прадае жывёлу па добрай волі, не шкадуючы.

Шматразова згадваемы прынцып «падобнае выклікае падобнае» дазваляе сцвярджаць, што абодва бакі накрывалі голыя рукі крысом вопраткі толькі таму, што баяліся: голыя рукі могуць справакаваць пустэчу ў хляве. Узгадайце, калі ласка, працэдуру дзяльбы каравая на вяселлі. Маладых катэгарычна забаранялася віншаваць поціскам голай рукі — могуць быць або беднымі, або бяздзетнымі.

Акт продажу заканчваўся тым, што пакупнік браў карову за вяроўку і тройчы па сонцу абходзіў вакол воза, а прадавец тым часам вяртаў яму некалькі капеек назад.

Калі карову куплялі непасрэдна ў двары гаспадароў, то яе рэкамендавалі забіраць у першай палове дня, але ні ў якім разе не вечарам. У тым выпадку, калі торг адбыўся надвячоркам, забіралі скаціну толькі назаўтра раніцай. Пераход дня ў ноч лічыўся вельмі благім часам і параўноўваўся па свайму значэнню з апошняй квадрай месяца. Забіраючы карову, пакупнік або яго жонка імкнуліся прыхапіць з сабою жменьку зямлі з двара былога гаспадара (бралі зямлю з падваротні хлява або каля правага вушака дзвярэй) і затым рассыпаць яе па ўсім двары. Гэтым самым жадалі «прывязаць» карову да свайго двара.

Цікавыя рытуальныя дзеянні выконваліся гаспадарамі падчас прыводу каровы ў новы двор. Гаспадыня звычайна сустракала яе хлебам-соллю і давала з'есці першы адрэзаны акраец хлеба. Лічылася добрай прыметай, калі купленую карову будзе сустракаць цяжарная жанчына. У некаторых месцах жывёліну сустракалі гэтаксама, як сустракаюць маладых пасля вянчання: у варотах клалі кажух, вывернуты поўсцю наверх.

На Беларусі вядомы і звычай аблівання каровы вадой, калі яе толькі заводзяць у двор. Рабілася гэта дзеля таго, каб карова не «сумавала» па ранейшых гаспадарах. У той дзень, у які карову прывялі да новых гаспадароў, катэгарычна забаранялася што-небудзь пазычаць (у тым ліку і грошы).

*Гэты звычай цесна перапляцены з блізкімі сітуацыямі: нічога не пазычаць у той дзень, калі нарадзілася дзіця або ацялілася карова.*

## КАБ ХУТЧЭЙ АДПАЛЯВАЛА

Калі карову прыводзілі да быка, то гаспадар адвязваў вяроўку, на якой вёў скаціну, і апяразваўся ёй па поясу сам. Моцным сродкам ад бясплоднасці лічылася і такое дзеянне: пасля таго, як хлеб пасадзілі ў печ, бралі нож і саскрабалі з лапаты рэшткі цеста. Пашкробкі перамешвалі з соллю і давалі карове, але не з рук, а перакідвалі праз дзвярную пятлю. У заходніх раёнах Беларусі з гэтай нагоды рабілі так: бралі шнурок, на якім вясной падсушвалі вяндліну або саланіну, і навязвалі карове на шыю. Калі карова доўга заставалася ялавай, то гаспадары звалі да сябе поўную жанчыну і прасілі яе падалом сарочкі пацерці карове ззаду.

Цікава, што на працягу шматлікіх стагоддзяў гаспадарання ўзніклі і захаваліся ў народнай памяці прыметы, па якіх можна было прадказваць, каго прывядзе карова. Так, калі яна «пагуляла» да поўдня ці на пустое вымя, то трэба было чакаць бычка, калі ж нявыдаенаю або ў другой палове дня — прывядзе цялушку. Калі цельная карова пастаянна ліжа сабе бакі, яна ацеліцца цялушкаю, калі спіну — бычком. Калі цельная карова захоўвае жвавасць, то будзе бычок, калі ж яна ціхая і спакойная — чакайце цёлку. Нагадаю і такую незвычайную прымету: калі незадоўга да ацёлу хвост у каровы будзе захоўваць звычайны выгляд, то будзе цялушка, калі ж стане хвалісты або заўецца — будзе бычок.

Дбайныя гаспадыні на працягу ўсяго перыяду цельнасці прытрымліваліся цэлай сістэмы абмежаванняў і перасцярог. Аказваецца, у гэты час нельга было віць вяроўкі, вязаць з матузоў дываны, віць пугу-пляцёнку, гарадзіць пералаз, бо цяля ўродзіцца са звітымі або вывернутымі ножкамі. А каб перасцерагчы карову ад living рознага чэраў або дрэннага вока, трэба было вывесці яе ў двор і тройчы перакінуць праз спіну сякеру, прычым кідаць трэба было толькі з таго боку, з якога даілі.

## АЦЁЛ

У час ацёлу непажаданай была прысутнасць чужых людзей, каб благія вочы не выклікалі прыпадак. А каб карова і цяля не баяліся чужых вачэй, іх адразу ж трэба было апырскаць вадою, асвечанай у храме на Вадохрышча, і абсыпаць соллю, якую ў Чысты чацвер ставілі на ноч на скрыжаванні дарог. Лічыцца, што цяля будзе добра расці, калі адразу ж пасля ацёлу абкурыць саскі каровы грамнічнай свечкай. А каб карова не страціла малако, яе абсыпаюць асвечаным макам. Як толькі расцеліцца пяршачка, трэба набраць поўную дайніцу вады, роўна з берагамі, затым здаіць з кожнай цыцкі накрыж тройчы на тую ваду і даць яе папіць карове, а што застанецца, лінуць на карову ад крыжа да галавы. Пасля гэтага ніякія чары не прычэпяцца да яе.

Нашы продкі былі перакананыя, што малочнасць каровы ў многім залежыць ад дня ацёлу. Скажам, цяленне ў панядзелак і пятніцу прадказвала, што малака будзе вельмі мала, хоць ты бяры і адразу вядзі рагулю на базар. Найбольш шчаслівымі лічыліся аўторак, серада і чацвер. А з другога боку, існавалі прадказанні па напрамку размяшчэння цяляці пасля цялення. Мой бацька разважаў так: калі галава цяляці скіравана на ўсход, то яно вырасце вялікім і дужым, а калі на захад — то лепш было яго зарэзаць на вяселле, або прадаць. З даўніх часоў вялікай пашанай карысталіся бычкі-блізняты. Калі ўзараць на іх поле, то там заўжды будзе добры ўраджай, а збажыну ніколі не паб'е град.

Калі ж тых бычкоў запрэгчы ў плуг і імі абараць усю вёску, то ў ёй не будзе паморкаў.

Асаблівую ўвагу трэба было ўдзяляць «месцу» або «пасцелі». Яе пажадана было тут жа закапаць у гной, каб ні ў якім разе не даць яго з'есці карове, бо верылі, што пасля гэтага малако будзе пеніцца («шумець») аж да другога цялення. Калі пасля цялення карова доўга не магла ачысціцца ад месца, то бралі стары венік або мятлу і праводзілі ім па крыжы, затым неслі на скрыжаванне дарог і закопвалі. Усё гэта імкнуліся выканаць так, каб ніхто не ўбачыў, інакш не будзе карысці.

Да нашага часу вясковыя знаўцы народнай мудрасці выконваюць вельмі эфектыўную прафілактычную маніпуляцыю: карове першага цялення спілоўваюць адзін або два рагі, прасвідроўваюць у іх невялікія дзірачкі і ўпускаюць туды «жывое срэбра» (ртуць). Гаспадыні перакананыя: лепшага сродку ад сурокаў, падзіваў і розных чараў проста не існуе.

**Іван КРУК.**

*РЭПАРТАЖ*

# ВЕСНАВЫЯ ГОНІ

Сёння, калі хочаш сустрэць нейкага кіраўніка Мядзельскага раёна, — шукай яго ў полі. І не важна, старшыня гэта калгаса або дырэктар прадпрыемства ці нейкай установы, погляды ўсіх сёння скіраваны ў бок палеткаў, дзе вырашаецца лёс будучага ўраджаю, а ў пэўнай меры і дабрабыт мясцовых жыхароў, бо Мядзельшчына — край сельскагаспадарчы: што вырасціў — тое і тваё. Таму многія гарадскія арганізацыі накіроўваюць працоўныя дэсанты ў вёску. А спраў і клопатаў там цяпер шмат: і зямлю трэба рыхтаваць, і ўгнаенні ўносіць, і сеяць, бульбу перабіраць для пасадкі... Кіраўнік раённай адміністрацыі на час веснавой сяўбы нават «ахвяраваў» свайго персанальнага вадзіцеля Руслана Мехавіча — цяпер ён узначальвае спецыяльны мехатрад па апрацоўцы глебы.

Вось і ў калгасе імя Горкага на адным з палеткаў, дзе працаваў новенькі трактар «Беларусь» з нейкім нябачаным раней агрэгатам на прычэпе, мы сустрэлі дырэктара райаграпрамэнерга Івана Варановіча. Як высветлілася, гэта агрэгат камбінаваны шыроказахопны (АКШ-3,6), дарэчы, айчыннай вытворчасці, прызначаны для перадпасяўной апрацоўкі палеткаў. Ён праводзіць культывацыю глебы, тут жа спецыяльныя ротарныя бароны дадаткова рыхляць і прыкачваюць яе, адначасова і прафілююць участак. Ва ўсякім разе, вялізнае, як ахапіць вокам, поле, на ўскрайку якога мы спыніліся, сапраўды было выдатна апрацаванае: роўненькая, пульхная зямелька! Ды і прадукцыйнасць працы ўражвае. Па словах механізатара Леаніда Мяркулава, пры норме 14 гектараў ён апрацоўвае штодня 28—30 гектараў палеткаў. Праўда, працаваць даводзіцца з раніцы і да цямна. Добра яшчэ, што кіраўніцтва гаспадаркі наладзіла трохразовае гарачае харчаванне механізатараў, якое прывозяць прама ў поле.

Іван Варановіч уважліва агледзеў агрэгат, параіў механізатару замацаваць падшыпнік і наогул лепш сачыць за тэхнікай. Падумалася: з чаго б гэта такі клопат пра стан сельгастэхнікі з боку кіраўніка прамысловага прадпрыемства? Аказваецца, гэты трактар і яшчэ два такія ж сёлетняй вясной райаграпрамэнерга набыло па лізінгу. Сфарміравалі спецыяльны мехатрад, укамплектавалі яго кадрамі і накіравалі на выручку хлебаробам.

— Нават цяжка сабе ўявіць, як бы мы змаглі абысціся без такой дапамогі, — гаворыць старшыня калгаса імя Горкага Віктар Субач. — У гаспадарцы тэхніка вельмі старая, грошай на новую проста няма. А гэты мехатрад дазволіць адсеяцца не пазней чацвёртага мая.



НА ЗДЫМКУ: кіраўнік райаграпрамэнерга **Іван ВАРАНОВІЧ** і старшыня калгаса імя Горкага **Віктар СУБАЧ** гутараць з механізатарамі.

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

Ды і адкуль узяцца тым сродкам, калі гаспадарка ў даўгу як у шаўку? Агульная запазычанасць перавышае 3 мільярды рублёў. Трэба зазначыць, што і ў райаграпрамэнерга лішніх грошай таксама няма. І тым не менш сельскія энергетыкі пайшлі на прамыя выдаткі: набылі тры трактары і цяпер дапамагаюць іншым гаспадаркам. Да таго ж летась райаграпрамэнерга набыло два корманарыхтоўчыя камбайны КСК-100, якія аказалі гаспадаркам раёна неацэнную дапамогу ў нарыхтоўцы кармоў. Яшчэ б нічога, але ў калектыву ёсць і ўласная «даважка». Само прадпрыемства летась аб'ядналася з былой аграфірмай «Зара», якая цяпер пераўтворана ў сельскагаспадарчае прадпрыемства імя Максіма Танка. Адной ворнай зямлі там больш за 5 тысяч гектараў — лічы, шостая частка Мядзельскага раёна. І справы ў гаспадарцы ішлі вельмі дрэнна: ураджай збожжавых быў каля 12 цэнтнераў з гектара, надоі малака ад каровы менш чым паўтары тысячы літраў. Але ўжо летась становішча пачало выпраўляцца. І сёлета гаспадарка ўпэўнена набірае тэмпы. Словам, тыя мільярды рублёў, якія райаграпрамэнерга ўкладвае ў гаспадарку, прыносяць адчувальныя вынікі.

Пакуль мы размаўлялі з кіраўнікамі гаспадарак, да ўскрайку поля падкаціў жвавы «Беларусь» з пнеўматычнай сеялкай СПУ-6. За дзень яна здольна засеяць да 40 гектараў. Механізатар падруліў да спецыяльнага агрэгата, які вокамгненна загрузіў яе насеннем. І сеялка — з разраду навінак. Ва ўсякім разе, і прадукцыйнасць працы высокая, і якасць высеву адметная. А галоўнае — усё робіцца аўтаматычна, не трэба на прыступках трымаць сеяльшчыка. Прыпомнілася, колькі ў юнацкія гады давялося ўдыхнуць у сябе пылу, стоячы на мосціку сеялкі! Цяпер гэта ўжо гісторыя.

Завіталі мы ў гэты дзень і на палеткі сельскагаспадарчага прадпрыемства імя Максіма Танка. І тут кіпела работа: уносілі ў глебу арганіку і мінеральныя ўгнаенні, рыхтавалі глебу, вялі сяўбу збожжавых. А ля буртоў з бульбай шчыравалі жанчыны. Аказваецца, на дапамогу хлебаробам прыехалі работніцы раённай бальніцы, сувязісты, а таксама райаграпрамэнерга. Прама ля буртоў з бульбай і сфатаграфавалі іх. І хоць хлебаробы, як і рыбакі, не любяць загадваць наперад, але, па словах кіраўніка райаграпрамэнерга, сёлета яны мяркуюць сабраць з гектара не менш чым па 25 цэнтнераў збожжа — недзе цэнтнераў на 7 больш, чым у папярэднім годзе. Таму і шчыруюць усе на веснавых гонях.

**Уладзімір ГОЙТАН.**

*Мядзельскі раён.*

## УСЕ ДЗЕЦІ ЛЮБЯЦЬ ГЛЯДЗЕЦЬ КІНО!

І колькі б ні бурчалі дарослыя аб шкоднасці шматгадзінных зносінаў з блакітнай «скрынкай», зрабіць з гэтым нічога нельга. «Тэвэ — такая ж неад'емная частка сённяшняга пакалення дзяцей, як кнігі, фанцікі, маркі, гульня ў «цюшкі» — ранейшага. Надышоў час зыходзіць з гэтага і ў выхавальніцкай справе. Менавіта таму і сабраліся гэтымі днямі ў Мінску ўдзельнікі міжнароднага педагагічнага семінара «Тэлепраграмы і фільмы для дзяцей».

З Германіі прыехала каманда, якая абучае айчынных «кіношнікаў» працаваць з дзецьмі з дапамогай тэлевізара. Балгары прывезлі свой фільм «Мушкецёр у красоўках». Але і нашым тэлевыхавацелям ёсць што паказаць, чым падзяліцца. У сераду ўдзельнікі семінара ўбачылі беларускі фільм «Віні-Пух у Боне», сустрэліся з кінарэжысёрам Ігарам Волчакам у дзіцячай мультстудыі «Паграбок».

Тое, што абмяркоўваецца на гэтым семінары, датычыцца нашых дзяцей, таго, што яны будуць глядзець, націскаючы кнопку Беларускага тэлебачання. У чацвер а шаснаццатай гадзіне адбудзецца ў прамым эфіры прэс-канферэнцыя «Падарожжа Віні-Пуха. Бон—Мінск».

**Вольга МЯДЗВЕДЗЕВА.**

***Віктар Цімафеевіч ПАСЛЯДОВІЧ** з в. Іграева Слуцкага раёна. Шчыра віншуем цябе з днём нараджэння. Жадаем здароўя, удачы, цяпла, каб беды-нягоды згарэлі датла, каб жыць — не тужыць да 100 год давялося, хай збудзецца ўсё, што яшчэ не збылося.*

**Мазжаравы, Паслядовічы, Корані, Фіялкоўскія.**







МОДА

# АПРАНАЮЧЫСЯ, НЕ ЗАБУДЗЬЦЕ... РАСПРАНУЦЦА

**Мадэльеры ўсяго свету ўпарта распранаюць жанчыну, апранаючы яе. То разразаюць доўгую прамую спадніцу так, што ногі застаюцца ў выніку злёгку прыкрытымі. То эканомяць на спадніцы, прапануючы практычна набедраную павязку. То робяць такія глыбокія дэкальтэ, што прадстаўнікам моцнай палавіны забяспечваецца сама меней лёгкае галавакружэнне.**

Дом моды «Том Клайм», чыя калекцыя нядаўна дэманстравалася на подыуме Беларускага цэнтра моды, таксама не супраць выставіць на паказ жаночыя прывабнасці. І трэба сказаць, робіць гэта адначасова стрымана і ўпэўнена.

Касцюм-«любімчык» Тома Клайма, а кажучы па руску — Анатоля Кліміна. І так ужо расійскі мадэльер над гэтым прадметам гардэроба варожыць, што пры ўсім дзелавым выглядзе яго ўладальніца застаецца супержаноцкай і спакуслівай. Бо хоць і зашпіляе мадэльер усе гузікі на блузцы з доўгім каўнярам пад самую шыю, спадніцку ж адразае ледзь не па той лініі, дзе пачынаюцца ногі. Калі ж нацягвае на жанчыну прамыя штаны, то блузку надзявае з глыбокім выразам на грудзях у выглядзе кроплі.

Зрэшты, ёсць і зусім смелыя мадэлі, калі жакет ледзь-ледзь прыкрывае спераду частку цела да таліі. Хаця «ўзброіцца» можна звычайным бюстгальтэрам у тон касцюма ці топам на гузіках.

Дарэчы, гузікам у калекцыі «Том Клайм» адведзена галоўнае, самае бачнае месца. Яны ды металічныя спражкі пад золата і серабро — адзіная фурнітура, якую выкарыстоўвае мадэльер.

Ёсць яшчэ адметнасці ў вопратцы ад Кліміна. Абавязкова прыталены сілуэт і ўпрыгажэнне касцюма дэталямі з тканіны іншага колеру. Аддае ж перавагу мадэльер чорнаму, шэраму, цёмна-сіняму.

Свае вартасці ў строях «ад Том Клайм» дэманструюць ужо не толькі расіянкі, украінкі, але і францужанкі. У Парыжы фірменны буцік адкрыўся ледзь не раней, чым у Маскве. Экспартаваць сваю марку «Том Клайм» плануе ў Эстонію і Германію. А вось беларускім прыгажуням пакуль наўрад ці давядзецца аддаць свае сэрцы расійскаму мадэльеру. Па меркаванню адміністратара Дома па рабоце з кліентамі Сяргея Коцарава, цікаўнасць беларускіх жанчын абмяжоўвае... эканамічная сітуацыя ў краіне». На мой погляд, узровень аплаты працы большасці жыхароў рэспублікі сёння не настолькі высокі, каб яны маглі сабе дазволіць набыць у тым ліку і нашы рэчы (кошт іх складае ад 200 да 300 долараў). Свой поспех тут мы звязваем з паляпшэннем эканамічнага становішча ў вашай рэспубліцы», — адзначыў прадстаўнік расійскага Дома моды.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

## ХОДЗІЦЬ ЛЕБЕДЗЬ ПА ДВАРЫШЧЫ

Увогуле, гэта возера, Задзеўскае, мясцовыя рэчкі, што ляжаць у межах Пастаў, яны палюбілі. Прылятаюць сюды, як толькі згоніць лёд, некалькі пар і радуюць вока прыгажуны-лебедзі аж да першага лёду. А дзе зімуюць? Невядома. Кажуць, што ў Лепельскім раёне, дзе ёсць вадасховішча, што не замярзае.

Птушка для народа святая. Як помніцца, у старажытнасці яе мелі права падаць толькі на царскі стол, а простаму чалавеку і немагчыма ўзняць руку на такую прыгажосць. Хаця час мяняецца, людзі — таксама.

Гэты лебедзь яшчэ хворы, але Рэгіна Іванаўна Казлоўская, пенсіянерка з Пастаў, лічыць, што справа ідзе на папраўку. Цяпер ён ужо прымае ежу, а вось трапіў ён да яе зусім выпадкова і ў такім стане, што ветспецыялісты сумняваліся, ці выжыве. Прывёз яго ў хату зяць. І ён сустрэўся з прыгажуном выпадкова. Хутчэй за ўсё, трапіла птушка на электрычную лінію. Прынамсі, гэта самая праўдападобная версія, бо ніякіх раненняў няма, а стан спачатку быў проста шокавы.

Пасяліла Рэгіна Іванаўна птушку ў цёплым хляве, выхадзіла. Цяпер ужо яна есць хлеб, і нямала, трымае галаву. У цёплы дзень Рэгіна Іванаўна бярэ лебедзя на рукі, выносіць на сонейка. Ёсць надзея, што неўзабаве апынецца птушка на возеры, у сваёй звычайнай стыхіі. А магчыма, не захоча расставацца са сваёй выратавальніцай.

Калі ўжо друкаваў гэты матэрыял, стала вядома: у Паставах яшчэ ў адных добрых людзей зімаваў лебедзь, але той здаровы.

**Алесь КАСЦЕНЬ.**

## Старонка Паўла Глобы
### 30 красавіка

**РЭКАМЕНДАЦЫІ**. Шчасце ўсміхнецца таму, хто ўмее лавіць момант, удачу, імгненна рэагаваць на сітуацыю. Добра рабіць мноства дробных спраў. Смела абараняйцеся, калі робяць замах на вашы гонар і годнасць. Звяртайце ўвагу на любую інфармацыю, якая прыходзіць да вас сёння, — усё гэта абавязкова спатрэбіцца ў далейшым. Пастарайцеся ўдзяліць больш увагі дзецям. Спрыяльны час для шыцця і рамонту адзення. Проціпаказана курэнне. Галадаць не рэкамендуецца.

**ПРЫМЕТЫ**. Добра, калі з самай раніцы — сонечнае надвор'е. Штосьці здзівіла вас — на шчасце. Калі, выйшаўшы раніцай з дому, вы пачулі дзіцячы смех або ўбачылі, як гуляюць дзеці, — знак будучага багацця. Птушка, якая залятала ў дом, можа быць указаннем на прыемны сюрпрыз, які вас чакае. Нечакана трапіць пад град — знак таго, што ад вас адвярнулася Неба.

**СНЫ**. Збываюцца толькі канкрэтныя сны і толькі тыя, у якіх вам сняцца родныя і блізкія людзі. Трактуюцца яны прама. Выключэнне складаюць сны, у якіх вы бачыце коней, падковы, — знак вырашэння крызіснай сітуацыі, вызвалення ад нейкіх праблем.

**ЕЖА**. Не рэкамендуецца ўжываць віно і мясную ежу, можна есці салёную рыбу.

**АДЗЕННЕ**. Спрыяльныя яркія колеры. Не рэкамендуюцца змрочныя колеры, сіні і чорны.

**МЕДЫЦЫНА**. Магчымы расстройствы стрававання, ацёкі, болі ў вобласці грудзей, рэзкае змяненне кіслотнасці страўнікавага соку. Звярніце ўвагу на стан верхніх дыхальных шляхоў. Можна лячыць парушэнне абмену рэчываў, падагру, артрыты, рабіць аперацыі на нагах, каленях, сухажыллях.

**Падрыхтавана да друку спецыяльна для «Звязды» астралагічным цэнтрам «АРБА».**

ФЕСТЫВАЛІ

## НОТНАЯ СЦЯЖЫНКА ДА НЯСВІЖА

Калі дзесьці ёсць мясціны, якія быццам падштурхоўваюць вандраваць па часе, то яшчэ невядома, ці дачакаюцца яны сваіх наведвальнікаў. Прынамсі, кожны шукае для сябе такі куточак, дзе можна адчуць, што твой шлях па зямлі пралягае па пратаптаных вякамі сцяжынках. Аднойчы трапіўшы ў Нясвіж, раптам разумееш, што гэта менавіта такі куток.

Цэнтр старажытнай культуры Беларусі. Нясвіж можна лічыць невялікай мадэллю культурнага асяродка нашай краіны і ў цяперашні час. Старажытныя помнікі дапамаглі захавацца тут неўтаймоўнаму духу спакою і душэўнай чысціні. Можа таму ў Нясвіжы так утульна адчувае сябе музыка. Ізноў горад рыхтуецца да фестывалю камернай музыкі, які адкрыецца 30 красавіка.

Па традыцыі, у першую чаргу на фестывалі будзе выконвацца музыка, створаная на Беларусі, але якую мы толькі зараз адкрываем для сябе. Прозвішча Міхала Агінскага добра вядомае зараз ва ўсім свеце. Але настаўнікам музыкі ў Агінскіх быў Восіп Казлоўскі, які таксама пісаў музыку. На адкрыцці фестывалю прагучыць Рэквіем для салістаў, хору, камернага аркестра Восіпа Казлоўскага ў выкананні хору і аркестра «Санорус».

Але асноўную нагрузку на фестывалі нясе Камерны аркестр Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі, які будзе выконваць не толькі музыку сусветных і беларускіх класікаў, але і кампазітараў — нашых сучаснікаў. Цікавым абяцае быць канцэрт у касцёле «Божага цела», дзе прагучыць твор маладога кампазітара Аляксандра Літвіноўскага «Да матачкі Божай», а таксама «Нясвіжская меса», не так даўно знойдзеная навукоўцамі.

Што датычыцца прадстаўнікоў навукі, то яны збяруцца на чарговую канферэнцыю, каб ізноў высвятляць невядомае з мінуўшчыны нясвіжскай зямлі.

Цікавасць да фестывалю камернай музыкі, які трэці раз пройдзе ў Нясвіжы, павялічваецца. Ужо прадстаўнікі 27 іншаземных пасольстваў выказалі жаданне наведаць канцэрты. Чаму б і не? Некалі ў палацы нясвіжскіх князёў Радзівілаў прымалі гасцей з розных краін Еўропы. У іх гонар таксама гучала музыка.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**





Верховный суд Беларуси выражает соболезнование консультанту отдела КУШНЕРОВОЙ Н. Е. в связи с постигшим ее горем — смертью **отца**.



## ВІНШАВАННІ

*Шчыра віншуем з днём нараджэння* ***Алу Іванаўну ГЛАЗАВУ*** *з в. Каралёва. Жадаем моцнага здароўя, шчасця і радасці ў жыцці.*

**Бацькі** з в. Волма.

*Віншую дарагую мамачку* ***Наталлю Аляксандраўну СІДАРЭНКА*** *з днём нараджэння. Жадаю здароўя, шчасця і весялосці.*

**Дачка Саша,** г. Мінск.

*Дарагую матулю* ***Яўгенію Міхайлаўну*** *і брата* ***Мікалая Аляксандравіча ЛАМАНАЎ*** *сардэчна віншуем з днём нараджэння. Жадаем здароўя, бадзёрасці, поспехаў у жыцці.*

**Родныя**, г. Смаргонь.

*Любага мужа і бацьку* ***Васіля Аляксандравіча ВАРАНЕЦКАГА*** *віншуем з днём нараджэння. Жадаем шчасця, здароўя і радасці ў жыцці.*

**Жонка і дзеці**, в. Вераскава Навагрудскага раёна.

Згубленае пасведчанне інваліда II гр. № 77620, выдадзенае на імя Віктара Пятровіча ПАЦЭВІЧА, лічыць несапраўдным.

## СЁННЯ

### МЕСЯЦ

**Маладзік 26 красавіка.**

**З 8.02 — 5-ыя месяцавыя суткі.**

**З 6.58 Месяц — у сузор'і Рака.**

**Інфармацыя для дачнікаў і сялян: у сузор'і Рака (вельмі спрыяльнага для сяўбы знаку задыяка) Месяц будзе знаходзіцца да 12.50 2-га мая. Добра пасеяць да гэтага часу тое, што спее над зямлёй (растучы Месяц).**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў. Тэмпература паветра ў Мінску, Віцебску, Магілёве — 20—22, Гродне, Брэсце, Гомелі — 21—23 градусы цяпла.

У наступныя двое сутак па паўднёваму захаду пройдуць кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература ўначы — 5—10, удзень — 18—23 градусы вышэй нуля.

